УДК. 882.6-1
ББК 84(4Беи)
Б 14

**Багдановіч І.**

Б 14 Сармацкі Альбом. Вершы. — Мн., 2004. — 84 с.

На старонках гэтай паэтычнай кнігі ажывае даўняя і нядаўняя сармацка-рыцарская гісторыя Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, калі спавядаліся ідэалы вольнасці і веры, панаваў культ Айчыны, сагрэты і ўзвялічаны каханнем. Тут дзейнічаюць князі і каралі, рыцары і дамы іх сэрца,



# ПАМІЖ КАХАННЕМ І СМУТКАМ

У сучаснай беларускай паэзіі не вельмі выразна праглядаецца глыбіня культурнай традыцыі. Прычына тут у тым, на маю думку, што Першае беларускае Адраджэнне на пачатку гэтага веку ня толькі прыйшло пасля шматгадовага нацыянальна-культурнага заняпаду, але і было, у духу свайго часу, занадта моцна сацыялізаванае. Яно любіла Бацькаўшчыну і спачувала "простаму" народу, які жадаў "людзьмі звацца". І забывала пра тое, што Бог даў аднаму — адзін "талент", другому — тры, а іншаму — дзесяць. І што кожны мусіць адпрацаваць адпаведна гэтаму боскаму дару.

Далей — болей. Сацыялізм зрабіў гэтую спрошчаную эстэтыку нарматыўнай і, адначасна, растаптаў Адраджэнне, у чарговы раз пакінуўшы народ без гісторыі. Без яе зорных часоў росквіту нацыянальнага духу, калі дзеялі героі. Іх твары гладзяць на нас з нешматлікіх "сармацкіх" партрэтаў што цудам уцалелі ў полымі войн і рэвалюцый. Гэтыя твары, падобна як і славутыя радкі "Песні пра Зубра" паэта-лацініста Міколы Гусоўскага аб "хілых германцах" у цёплых ложках, перадаюць нам дух "сармацкай" культуры.

У вузкім сэнсе слова "сармацкай" завецца культура XVI-XVIII ст. ст. У шырокім сэнсе яна

ахоплівае шматвяковую гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, калі нашыя продкі ў бітвах з татара-мангольскімі захопнікамі вызвалілі Украіну. Спынілі наступ нямецкіх крыжацкіх ордэнаў. Трыста год стрымлівалі націск Масквы. Калі яны мелі сваіх князёў і каралёў якіх абіралі на Соймах.

Іншымі словамі сармацкая культура — гэта рыцарская культура. Для яе была характэрна любоў да сваёй Радзімы. Шчырая вера. Хрысціянская вера. І любоў да свабоды. Сваю зямлю яе сыны і дочкі называлі краінай "залатой вольнасці". Яе баранілі, не шкадуючы жыцця, аддаючы перавагу смерці перад рабствам. Таму твары на сармацкіх партрэтах дыхаюць пачуццем годнасці, павагай да сябе і сваёй грамадзянскай ролі.

Асаблівае месца ў межах сармацкай культуры займала жанчына. Яна разам з мужчынам, хаця і заставалася дома, пераносіла цяжкасці і небяспекі ваеннага ліхалецця. Яна з'яўлялася для яго духоўнаю апораю і вернай спадарожніцай у жыцці. Таму яе вобраз агорнуты ўзнёслым рамантычным арэолам.

Зразумела, што "Сармацкі Альбом" Ірыны Багдановіч ня ёсць проста адмысловай паэтычнай ілюстрацыяй да нормаў сарматызму. Хутчэй — сведчаннем трываласці традыцыі. Нездарма ж яе самыя "сармацкія" вершы былі напісаныя ў кароткі перыяд часу, калі віравала плошча Незалежнасці і калі Вярхоўны Савет мог знішчыць дыктатуру. Вярнуць народу свабоду, а краіне незалежнасць. Не атрымалася. Можа таму, побач з любоў'ю да тых самых сармацкіх каштоўнасцей і ў перамежку з імі, прысутнічае ў вершах смутак. Туга па нязздзейсненай, нерэалізаванай магчымасці. А можа і таму, што аўтар — жанчына. Жанчыны больш востра і непасрэдна адчуваюць непаўторнасць жыцця.

Прачытайце гэты невялікі зборнік цалкам. Каб з каляровых крышталікаў паэтычных вобразаў склаўся цэласны краявід сармацкага светаўспрыняцця. Аўтар прэтэндуе на гэта, і мне здаецца, што ў яе гэта атрымалася.

**Юры Хадыка**

# СШЫТАК ПЕРШЫ

# ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Post tenebras spero lucern[1]

[1] Спадзяюся на святло пасля змроку

* * *

Трапяткое маё каханне,
Залатая мая надзея...
Ад высокіх нябёс пасланне —
Бел-чырвоная бел-лілея
Упрыгожыла так мілавочна
Сход сармацкі... З часоў Купалы
Мы па Бацькаўшчыну ўсё крочым,
А яе ўсё дзяруць шакалы.
Як бы шлях наш не звузіўся вузкі,
Дух змагання наш не змалее.
Як да чашы, даткнуцца вусны
Да ўрачыстых пялёсткаў лілеі.
І паўстане аднойчы ранне,
Калі зробіцца ўсё магчымым:
Трапяткое маё каханне
І свабода маёй айчыны.

06.XII.I996

* * *

Сёння таксама нам не сустрэцца, мой
князю!
Кліча ізноў здратаваная наша айчына.
Вечавы звон у душы заглушае паразу,
Дзіды шыхтуе і коні сядлае дружына.
Колькі ўжо часу світанак змалёваны
вуглем.
Чэрнь захапіла пасад і кіруе краінай,
Коні Усяслава іржуць і закусваюць цуглі.
Прагны сусед ад здабычы п'янее ільвінай.
Сойм разваліўся, дзяржава ў паўкроку ад
страты,
Здрадніцтва ў рангу вышэйшых
дзяржаўных
паводзін.
Дзе вы забылі свой гонар і славу, сарматы?
Стаць з вас героем айчыны не варты
ніводзін.
Не, не з такімі айчыну вяртаюць з нябыту!
Выгляд сармацкі пасланцам дрыгвы не
пасуе.
Коні гарцуюць і порахам стрэльбы набіты.
Плошча, як поле, сцягамі ізноў каласуе.
Гэта вітанне ад нас Усяслава дружыне.
Вернем сармацкі пасад, хоць, відаць, не
адразу.
Наша каханне — ў здабытай змаганнем
айчыне
Сёння, на жаль, нам ізноў не сустрэцца,
мой князю!

27.XI.1996

* * *

Што Гасподзь пашле, прыму належна,
Без адчайнай роспачы і скаргі.
Мы здабудзем нашу незалежнасць,
Як бы ні спляталі ніці Паркі.
Што б ні вырабляў кумір натоўпу,
Колькі б ён хлусні тут ні пасеяў,
Беларусь упішацца ў Еўропу,
Але не ў драпежную Расею.
Вера ў гэта не дае спыніцца,
Хоць вакол наўсцяж усё дрыгвее.
Бацькаўшчына ў сэрцах нашых, быццам
Бел-чырвона-белая лілея.
І ні бруд, ні здрада не зачэпяць
Гэты квет, што вырас уладарна.
Не сатне яго ні кат, ні чэлядзь,
Што куміру кланяецца марна.
А Гасподзь пашле нам лес належны —
Пешчаную сотні год надзею:
Беларусь, Айчыну, Незалежнасць,
Бел-чырвона-белую Лілею.

13.XII. 1996

* * *

Світанак 16-га лістапада

Світанак ужо настае.
Што ж нас сёння чакае?
Чую словы твае.
Бачу вочы твае.
Вандрую па небакраю.

Ці Бацькаўшчыны ўжо шчыт
Адноўлены ў сваёй славе?
Як мне цябе зберагчы,
Не аддаць шалёнай араве,

Світанак нашых надзей,
Праз нас даверааны Богу?..

Мінае ўжо трэці дзень,
Не граюць яшчэ перамогу.

19.XI. 1996

* * *

На вуліцы змяркання змрок,
Жаданы госць мой не прыходзіць.
І блізкі снежань жаль наводзіць,
Што быў да волі толькі крок.
Але дзяржаўныя мужы
Дарма тапталіся на месцы,
Замест таго, каб годна змесці
З дзяржавы хлуд, але скажы,
Скажы, мой найсвятлейшы князь,
Калі пашле нам Бог спатканне?
Няўжо ў бясконцасці параз
У гэтым "дзікім паляванні"
За славу нацыі змаганне
Каханнем не ўратуе нас
І не ўмацуе нас каханнем,
Скажы, мой найсвятлейшы князь?..
На вуліцы змяркання змрок,
Жаданы госць мой не прыходзіць.
І блізкі снежань жаль наводзіць,
Што быў да вол і толькі крок.

29.XI.1996

* * *

Калі яшчэ не падала святло
Цудоўнае ад Віфлеемскай Зоркі,
Калі яшчэ нічога не было,
А толькі смутку ледзяныя коркі,
Калі яшчэ за шыльдамі падзей
І не ірдзела нашае каханне,
Ты падарыў усмешку ў летні дзень,
Як будучых спатканняў прадчуванне...

08.XII.1996

* * *

Не, я не ведала гэты свой шлях,
Што буду жадаць і марыць
Лучынкаю ў вашых модных руках
У цемры сусветнай растаяць.
Цешыцца з полымя кволага тым,
Што трапяткі мой агеньчык,
Магчыма, здаваўся вам залатым,
Як сонечны ў полі сланечнік.
Вам, мой кароль, узнімаць палкі
У паход па бацькоўскіх гонях.
Мне грэцца ўспамінам сваёй рукі
У вашых сармацкіх далонях.

16.X. 1996

* * *

Хто я для вас? Пялёстак ружы,
Часовым вабны хараством,
Які не вытрымае сцюжы,
Маленькі і зусім не дужы…
Хто я для вас? Пялёстак ружы,
Ён ападзе, спачыне сном
Забытасці ў прадонні стром.
Хто я для вас? Пялёстак ружы,
Часовым вабны хараством.

03.XI. 1996

* * *

Я знаю, небяспечна адкрываць
Сваю душу насустрач бліскавіцы.
За вас я буду горача маліцца
І ўсіх сустрэч нявінныя драбніцы,
Як першыя кранальныя суніцы,
У кошык сэрца з любасцю збіраць

22.X. 1996

* * *

Цуд мне дараваны шыкоўны:
На фоне жыцця маляўнічым
Бачыць вас зрокам духоўным,
Калі немагчыма фізічным.
У гэтым Гасподнім дарунку
Такая любоў і пяшчота,
Я к быццам у тым пацалунку,
Які вы адклалі на потым.

07.XI.I996

* * *

Я выйду зноў у горада прастор,
У кут запхну прад тым настрой свой
дрэнны,
І апрану найлепшы свой убор,
Таму што я, магчыма, вас сустрэну.

І праплывуць натоўп, метро, праспект,
Нарэшце храм навукі прад вачыма.
Мне хочацца мелодыю напець
Аб тым, што я сустрэну вас, магчыма.

А калі не, мне люб такі палон,
Шалёныя маіх фантазій хвалі,
І спадзяванне, што ў патоку дзён
На нейкі момант вы мяне ўзгадалі.

07.XI.I996

* * *

Хутка, так хутка ўжо снежань!
Вось і мінулі Задушкі,
Думак нястройная мешань
Стакрот звіваецца ў стужкі.
Быццам стаю на парозе
Непрадказальнай падзеі.
Дзён залатое палоззе
Час на мінулае дзеліць
І на ўрачыстае заўтра,
Дзе быць жадаю прысутнай,
Як у партэры тэатра
На драме лёсаў магутнай.
Там прападае ў аблудзе
І ў кіпцюрах крумкачыных
Княства былое і людзі,
Што адракліся айчыны.
Там увязнёны за краты
Рыцар айчыны-княгіні,
І высвятляюць сарматы
Сэнс працілеглых апіній:
Хто болей злева, хто справа,
Дзе заняпаду прычына...
Вершнік дружыны Усяслава
Кліча ў паход за айчыну!
Месца ў партэры пакіну
Для гледача, хто спазніўся.
Кліча ў паход за айчыну
Вершнік, што зваць не стаміўся
З горкіх часоў Рагвалода,
Вітаўта слынных харугваў.
Чуеш, нас кліча свабода,
Наш набліжаецца Грунвальд!
Як у тэатры й належыць,
Феерверк рабілі гарматы...
Тут жа ў нас хутка ўжо снежань.
Пішуць дамовы сарматы.

03.XI.1996

**Адказ на невядомую прапанову**

Дазвольце лепш я прысвячу вам верш!
Пра млын стары, пра вечар у Дудутках,
Калі зліваўся спеў з нябёсных веж.
Пра тое, што сустрэну вас не хутка.
І не дазволю зноў сваёй душы
Не толькі вам, самой сабе прызнацца...
Што шчыра ўкленчу: "Ойча, разграшы!.."
Бо мару з вамі зноў... пацалавацца.

15.X. 1996

**Млын**

Драўляны шэры млын з крылатымі рукамі,
Як рыцар велічны, адзін у чыстым полі
Стаіць дазорцаю, кіруючы вятрамі,
Спыняючы іх бег імклівы ў наваколлі.

Спыніліся і мы прад таямнічым зеўрам.
Як зернейкі, туды з цікаўнасцю ўпадаем.
А лесвіца наверх рыпіць кажнюткім
нервам,
Штоярус нас цясней злучае з небакраем.

А навакол прастор, аж сцісквае дыханне.
І ўсё гаворыць аб прыязнасці Гасподняй,
Як быццам хтосьці вам прызнаецца ў
каханні
Не словамі зусім, а ўсмешкаю лагоднай.

І вам падасць руку на таямнічых сходах,
Калі здаецца ўніз дарога небяспечнай
Раскутая душаў сабе Гасподні подых
Адчуе і на міг даткнецца высі вечнай.

Такі дзівосны млын. Ён меле жыта думак.
І цудадзейна так усё перарабляе:
Сустрэчу — на пагляд, пагляд — на пацалунак...
Дазорцаю стаіць сам-насам з небакраем.

29.XI.1996

## Астра

Ён з'явіцца, жаданы хтосьці,
Як даўні і чаканы госць.
Заззяюць іскры маладосці,
І астры позняй прыгажосць
Успыхне тайнай асаблівай
І скала позіркам адным:
Мне толькі з вамі быць шчаслівай.
Хоць лес пад зелены з другім...

30.IX. 1996

* * *

Адкуль такая ўладная журба,
Што пераможна стукаецца ў дзверы?
Кароль разбіты, кажа варажба,
І разышліся ўсе яго жаўнеры.
І каралеўства, кінутае ў вір
Дзяльбы. натоўпу і блазенства ўлады,
Пакінуў нават колішні кумір.
Што справу так і не давёў да ладу.
Але дарэмна марш па каралю
Хаўтурны гралі змучаныя сурмы.
Кароль жывы! І я яго люблю,
Хоць каралей любіць занятак сумны.
Як на далоні ў іх дзяржавы лёс
Ляжыць прывабнай і адзінай цацкай.
І толькі зрэдку воляю нябёс
Заўжды чаканы і заўжды знянацку
К табе ці з явы, ці з магічных кроз
Ён завітае постаццю сармацкай.
Але адкуль усе ж настрой такі?..
Не выпадае плакаць, лепш маліцца.
Кароль збірае зноў свае палкі!
І дай нам Бог цяпер не памыліцца.

13.XI. 1996

* * *

Мой кароль у сармацкім паходзе
За стаптаны айчыны пасад.
За народ што дрыгвее ў нягодзе.
І кароль не паверне назад.
Прад вачыма змарнелыя гоні.
За спіною зняслаўлены дом.
Ён у вечным паходзе сягоння.
Але вернецца ён са шчытом.
Стань, маё трапяткое каханне,
Абарончай кальчугай яму!
Чорнай зграяй ляціць паляванне.
І не бачна прасвету скрозь цьму.
А калі згіне зграя варожых,
Пачысцее ад здрады зямля,
Пацалунак мой сам пераможа
Пераможцу, майго караля.

27.XI.1996

## Плошча Незалежнасці, 22 лістапада

**"Дэпутатам"**

Ці са шчытом, ці на шчыце
Ў краіну нашу зноў мы прыйдзем.

Алесь Дудар

Час прыйдзе — лясне ваш хаўрус,
Дый мы запомнім вас, "героі",
Як вы здавалі Беларусь
Чарговы раз Маскве без зброі.
Як вы, ілбы схіліўшы ўніз,
Ішлі к маскоўцам па параду —
Шукаць так званы "кампраміс",
А ўрэшце рэшт кавалі здраду.
Вы сёння здрады кавалі,
Хоць вы маглі сябе ўзвялічыць.
Дый прыйдзе час для вас, калі
На суд Гісторыя пакліча.
Нашчадак вас прымусіць сам
Сказаць, чаму вы прадавалі
Наш край усходнім гандлярам,
А свой пасад не збудавалі?
Смярдзіць ваш здрадлівы намер!
Што супраць ганьбы вы на шалі
Пакласці зможаце цяпер,
Калі сябе ж бясслаўна здалі?!

Нічога вы не варты там!
Не спанаваць радзімы лесам,
А пад'ялдыкваць маскалям,
Прыкрыўшыся папераў стосам, —
Вось варты жалю ўвесь ваш "труд"
У гістарычным землятрусе!
Але ёсць мы! Ёсць дух наш тут!
І мы спануем Беларуссю!
Бо ў нашых сэрцах без утом
Жыве і б'еццa дух Пагоні.
Мы заўтра прыйдзем са шчытом,
Калі не хопіць сіл сягоння!

22.XI.1996

## Дзяды, 1996

Дзяды. Суцішлівая восень. Дождж імжыць.
На ўсе нябёсы Крыж у Курапатах.
І сосны параслі тут, як крыжы,
Над кожнаю душой невінаватай.
Увесь бунтоўны сціх тут "Маладняк",
Пайшлі нацыянальныя героі
Адсюль у несмяротны свой працяг
Ахвярамі духоўнай новай Троі.
Стакрот Айчыны здраджаны пасад.
Блазнюк каранаваны быў басотай.
Ізноў наперад вылез брудны кат
З сваёй бязроднай янычарскай ротай
Без Бога, без Айчыны ў галаве.
Але ёсць дух адроджаных сарматаў!
Забілі ўсіх — а нацыя жыве!
Жыве з-пад Крыжа ўзросшы ў Курапатах.
Таму Нябёсаў не запхнуць пад столь,
Якія б новыя тут не пляліся міты,
Што блазан вечна будзе тут кароль...
О не! Вяртаюцца і Рагвалод, і Вітаўт.
Яны вяртаюцца — пад восень, на Дзяды.
Ідуць! Бо з намі іхнія харугвы.
Няхай вішчаць шакалы і краты —
Ён прыйдзе — наш непераможны
Грунвальд!

05.XI.1996

## Восень у акадэмічным двары

Акадэмічныя двары.
Музей народнага паэта.
Тут светла, што ні гавары,
Які б хаўрус не правіў светам,
Які б не спапяляў агонь
І Бацькаўшчыны нам не клычыў.
Я прадягну сваю далонь —
У восені лісток пазычу.
І вам старанна напішу
На гэтым лісціку барвовым
Усё, што крыліць мне душу.
Дый цяжка так знаходзіць словы.
Празрысты восеньскі настрой
Ён перадасць, мой кволы лісцік.
І будзе Бацькаўшчыны строй
Такі ж святочны, як калісьці,
Калі здалося: йшчэ парыў —
І воля ўжо так блізка, проста
Як дарагая ваша постаць
На плане дальнім у двары.

17.X. 1996

# СШЫТАК ДРУГІ

# ALBA PATRIA

Sua cuique patria jucundissima est*

* Кожнаму свая радзіма самая лепшая

* * *

Так, як Хрыстос, абылганы, распяты,
З мёртвых устаў, каб нас весці да раю,
З мукаў крыжовых на ганьбу Пілату
Так уваскрэснеш і ты, Родны Краю!
Тут зазвініць ручаінамі мова,
Дзеці анёльна на ёй зашчабечуць,
Бо засталося ж паўкрока, паўслова!
Дай жа нам Бог іх прамовіць, прабегчы.

13.IV.1995

* * *

Чуць толькі вецер за плячыма
І зразумець каторы раз,
Што ўжо нічога не магчыма
Настроіць, як у скрыпцы, ў нас.
Ідуць халодныя патокі
І працінаюць навылет,
А той, хто побач, — ён далёкі,
Як непатрэбны бляск прыгод.
Перад вачыма конь гарцуе
І чуе грацыю сваю.
Я ў чыстым полі — на пляцу я
Прад Божым позіркам стаю.
Не адчуваю вінаватай
Сябе, хоць сумны мой настрой.
Душы прыгожа быць крылатай,
Як кожнай птушачцы малой.

18.Х1.1996

## Гуканне вясны

Трыпціх

1.
Сваё завейнае крысо
Зіма ніяк з зямлі не зрушыць.
Зачараваў зімовы сон
Цябе, мяне, звяроў і птушак.
Паненка ясная Вясна
Заспалася — не дагукацца.
Няўжо забылася яна,
Што час на Беларусь вяртацца?
Бо нас па плечы замяло
Чужой злавеснай завірухай.
Гукай вясновае цяпло!
Але ў душы адказ падслухай.
02.IV. 1996

2.
Яшчэ ледзь-ледзь вясна зірнула,
А снег спалохаўся і знік;
Усіх сваім крылом кранула
І заманіла ў красавік.
Якая дзіўная прычына
Мяне ўзнімае над зямлёй,
Што проста дыхаць немагчыма
І быць з разважнай галавой?
Хоць прывяжы сябе! Як стужку,
Душа парве ланцуг, бо ты
Згукаў маю душу, як птушку,
Калі гукаў вясну сюды.
20.IV.1996

3.
Так незаўважна стаяў снег,
Але яшчэ няма лістоты.
Такі ж і ў сэрцы маім збег:
Калі яшчэ ледзь стаяў снег,
А нешта зрушылася ўпотай,
Як быццам у чароўным сне,
І я адчула ўсёй істотай,
Што хоць яшчэ няма лістоты
І толькі-толькі стаяў снег,
Дый нешта зрушылася употай,
І здарылася ўжо ўва мне,
І выбухне вось-вось лістотай.
20.IV.1996

## Рыцар

Немагчымы, не дадзены мне на жыццёвай дарозе,
Ты нябачна са мною, мой рыцар адвечны, ахоўны.
Я цябе прадчуваю, калі прападаю ў знямозе,
Я табой суцяшаю свой смутак адчайны, грахоўны.

Я аблічча тваё прымярала на розныя твары.
Мне здавалася, ты вось у гэтым з'яўляўся, ці ў
гэтым.
Ты ж нязменна быў там, дзе кіруюць
рэальнасцю мары.
Быў маім нераскрытым, заўсёдным, балючым
сакрэтам.
Я гукала цябе з невядомай засветнай даліны,
Каб ты побач паўстаў, уяскравіўся хоць на хвіліну.
Хоць на момант з'явіўся: бліскучы, фатальны,
адзіны...
І вось гэтак нясецца, нясецца жыццёпыл без спыну.

22.1 V. 1996

## Вандроўнік

Я шукаю цябе на рамонкавым полі,
вандроўнік,
Між сівых камянёў і імшастых,
дрыгвяністых
выспаў.
Ты душу маю ўзяў, як яе дабрадзейны
ахоўнік,
Але сон мой самотны дарэшты яшчэ ты не
выспаў.
Я іду па дарозе да светлай сваёй светлаяні,
Адышоўшы даўно ад магчымых усіх
спадарожных.
Я шукаю не леташні снег, але снег
палымяны.
Як адчайных шукаюць, знаходзячы
асцярожных.

22.IV. 1996

## Канцэрт у касцёле св.Роха

Галіне

Давай пакінем вечныя турботы
І будзем там, дзе скрыпка і раяль,
Ляцець на крылах мары і маркоты
І адчуваць, як дрыжыкамі ноты
Працялі цела і панеслі ўдаль.

Нам дзень за днём становіцца іспытам,
За кожную драбніцу барацьбой,
Дзе нам наканавана быць пабітым.
Канцэрт жа ў Роху — як палёт над бытам,
І ў гэтым пераможцы мы з табой.

05.XI. 1994

* * *

Прабягаю жыццё за плячыма, як перад вачыма.
Дзіўнай галькаю сноў пасыпаю сцяжыну сваю.
Абсалютна адна са сваёю самотай жанчына,
І не прыйдзе ніхто, каб самоту адвесці маю.

Крочаць побач усе, хто нібыта захоплены мною,
Толькі злёгку крануўшы мой лёс пацалункам рукі,
Толькі кінуўшы позірк... Нібыта здалёк, за ракою,
Мой застаўся герой. Але ўрэшце няма і ракі.

Я сама над сабой, над лятункам сваім насмяюся
І адважуся зноў на ні кім не ўпрыгожаны шлях.
Бо баюся паклікаць кагосьці ў нарыве, баюся,
Што раскаюся зноўі сыйду з той дарогі пасля.

26.VII.1996

* * *

Няўжо ты недзе ёсць, адзіны,
На нейкім дзіўным скрыжаванні,
Дзе растваряюцца ільдзіны
І ў неба ўсходзяць, як світанні...
На гэтым дзіўным скрыжаванні
Няўжо ты ўсё стаіш вандроўна,
Сустрэчы будучай шыкоўнай
Палоннік, як і я, выгнаннік...
Выгнаннік, як і я, з зямнога
Больш-менш адладжанага быту.
Цябе прадбачу, як дарога
Прадбачыць путніка... Адкрыта,
Адкрыта, як душа сусвету,
Недасягальная для злосці,
Навошта я, ільдзінка, лету,
Якую не адтаяў хтосьці?

26.VII.1996

* * *

Які анёл мяне бароніць
Ад зманлівай няўдзячнай здрады,
Калі грахоў маіх атрады
Ў шалёны гон уздыбяць коней?

Калі душа мая ірвецца
Зямны ланцуг свой расшчаперыць,
Які анёл мне цішыць сэрца
І расчыняе ласкі дзверы?..
Які анёл?..

26.VII.1996

* * *

Мне ваша запрашэнне, быццам вальс,
Няхай сабе і непратанцаваны.
Дазвольце, я ў радках згадаю вас
Рукою, вамі ўсё ж пацалаванай...

Вакол былі цікаўныя юркі,
Адны з якіх, магчыма, зразумелі,
Што пацалунак ваш маёй рукі,
Што ваш узняты з каханне келіх

Былі ўзаемна звязаны, хаця
Усё так неакрэслена і хістка
Здавалася. І бачыўся працяг...
Але да гэтага яшчэ не блізка.

07.III.1996

## Шапэн і Міцкевіч

*Парыж, 1846 год*

Парыжскі дом. Іграе Фрыдэрык...
Самота, восень, дождж, як хто прыдумаў.
Душа так замірае, быццам смык
Прад тым, як ён вось-вось кранецца
струнаў.
Іграй, іграй, о Фрыдэрык, іграй!
Заводзь у роспач, роздум і пакуту,
А ўрэшце рэшт туды — у родны край,
На здзек адданы, кінуты, закуты.
Сядзіць маўклівы, здушваючы плач,
Нібы не ён мяцежным быў героем.
Устане ціха, шэпчучы "прабач",
І пойдзе ў восень, дождж і ўсё чужое.
Ён толькі што стаяў пад брамай "Рай",
Як пілігрым, якога прытулілі...
Іграй, іграй, о Фрыдэрык, іграй!
Літва ў вачах у вобліку Марылі.

22.1.1995

## На Новы 1994 год

Людміле

З Новым годам! Вось і годам болей.
Год — зярнятка з гістарычнай пашы.
І няхай няма ў нас лёгкай долі, —
З намі Бог і Бацькаўшчына наша!

З намі ўсё, што намі перажыта.
І таемнай будучыні дзверы.
З намі шчырасць, ласка і спажытак
Нашае сяброўскае вячэры.

З Новым годам, тыя, з кім сябрую,
І каго ў сваім жыцці любіла!
З Новым годам, вы, па кім сумую,
І каго пакінула, забыла!

Хай асвецяць елачныя промні
Гэта свята сённяшняе ваша.
Што б ні стала, толькі будзем помніць:
З намі Бог і Бацькаўшчына наша!

31.XII.I993

## Смычок і струны

*Паводле Інакенція Аненскага*

Настрою мройлівы палёт!
Які на небе месяц сумны!
Кранаў ты скрыпку столькі год
І не пазнаў пры свечках струны.
Хто запаліў у цьме начной
Два жоўтых тварыка панылых?
Дый струны ўжо адчуў смычок,
Бо нехта ўзяў і нехта зліў іх.
"О, як даўно! Скрозь дзён тугу
Ці тая ж ты, скажы, ці тая?"
Адказам быў матыў смычку,
Што трапятаў пяшчотна й таяў.
Цяпер ніколі назусім
Мы не разлучымся! Даволі!
Згаджаўся голас скрыпкі з ім,
А сэрца рвалася ад болю.
То зразумеў смычок і сціх,
А ў скрыпцы рэха ўсё спявала.
Было пакутаю для іх,
Што людзям музыкай гучала.
Дый чалавек не пагасіў
Да ранку свечак... Струны гралі...
І сонца іх знайшло без сіл
На аксамітным пакрывале.

* * *

Даўно цябе пакінула, але
Не стаў мой шлях больш роўным і
прыгожым,
Нібы марозам тканы ўзор на шкле.
Як путніца, блукаю ў бездарожы.

І цешуся надзеяй на цяпло
Агеньчыка ў былым знаёмым доме,
Каб там душа адтайвала, як шкло
Вільготнае ў супольнай шчырай стоме.

Але раптоўна думка скалане,
Што я магу, калі дайду да края,
Пачуць адказ: "Ты не патрэбна мне,
Замест цябе даўно ўжо тут другая...".

22.X. 1994

* * *

Хутка Каляды, мой пане,
Снегам заносіць сталіцу
І ланцужок на ім стане
Следам вандроўнай лісіцы,
Не падуладнай закону,
Для палявання няўлоўнай,
Вабнай і вольнай да скону.
Хутка Каляды! Шыкоўна!

1993 г.

* * *

Ноч...
Зімовая лампада
Рассвятляе думак змрок.
Ціша...
Вечная Трыяда
Кліча дух,
узносіць зрок.

Словы складвае ў малітве
Неспатольная душа,
Што прайграла зноў у бітве
З грэшнай плоццю...
ймшыць імша...

Хто пастукаецца ў дзверы?
Што адпросіцца ў мальбе?
Усё па веры,
ўсё па веры
Будзе дадзена табе...

## Тры пацеркі Велікодныя

*

Страсаюць кроплі сонечныя дахі.
Як пемза, снег застаўся па лагчынах.
Зіма пайшла, свае забраўшы страхі
У ледзяную скрыню за плячыма.

Яшчэ ў паветры сіверна, а водар
Такі ўжо хмельны і такі ўжо весьні!
Вось-вось ад сну абудзіцца прырода,
І ўсе пачуюць «Госпадзе, ўваскрэсні!"

Укрыжаваны Госпад уваскрос!
І мы ўзняліся духам падупалым.
Вялікдзень! Разліваюцца з Нябёс
Анёльскай песняй срэбнаю цымбалы.

* * *

Іду свяціць галіначкі вярбы —
Нядзеля Вербная, і блізіцца Вялікдзень,
Калі душа пазбавіцца журбы,
І радасць, і збаўленне ў яе прыйдзе.

Асвецяцца пасхальныя дары,
І Госпад уваскрослы з намі будзе,
І зведае душа такі прарыў
К вышыням, што вось-вось пакіне грудзі.

Вялікдзень! У паветры срэбны звон,
І сонцаў, як чырвоных яек, столькі.
А над усім царуе вечны Ён,
Каб мы Яго ў сабе прызналі толькі.

Іду свяціць галіначкі вярбы...

* * *

Анёл гукам срэбных цымбалаў Нябёсы адкрые,
Ліюцца струменьчыкам тонкім лілейныя спевы,
Цябе праслаўляюць, о, Маці Хрыстова Марыя!
О, вечная юная добрая чыстая Дзева!

Твой Сын уваскрос, перад гэтым такі
зганьбаваны,
Пакутнаю смерцю памёр за грахі й
бездарожжа.
Не хмары плывуць — залатыя свае барабаны
Нясуць хэрувімы ўрачыста і б'юць пераможна.

Грахі й бездарожжа, ў якіх мы блукаем ад роду,
Руйнуюць нам душы, спакусы нас нішчаць, не
ўзносяць.
Дык молім жа ў Неба збаўлення цяпер і
заўсёды.
І Бог нам даруе, і Маці за грэшных папросіць.

*сакавік, 1994*

## Рэха Зьнічу

Чырвонай ружы таямнічы жар,
Гарбата, поціскі рукі, сумоўе.
Ці гэта Зьніч, ці гэта сам вядзьмар
Над клавішамі рэе рэхам поўні?..

Так, гэта ён — адвечны пілігрым,
Што мае рыфмаў дар і дух самотны,
Што любіць уніятачак употай
Ад Філарэта, дый не любіць Рым.

Бязгнёздны птах — акрылены рыфмар,
Ён сёння госць маёй ацiхлай хаты,
Сыходзіць з мар або з засветных хмар
У гэты свет, цялеснасцю стракаты.

Так з досьведам Паэта і "бамжа",
Спазнаўшы свету жорсткія асновы,
Укленчыў Зьніч навечна ля Крыжа,
З Нябёс на шлях пакліканы Хрыстовы.

22.VI.1993

## Зьнічовае княства

Чырвоным лісцем вінаград
Усыпаў дол каля хаціны,
Дзе беспрытульны сын айчыны
Свой сніў рыфмарны зоркапад.

І я хадзіла ў гэты дом,
Дзе гралі мы на фортэп'яна,
І дадавалі часам ром
Ў гарбаты кубачак духмянай.

Чыталі вершы, і вялі
Нас мары нашыя супольна
У той шляхетны час, калі
Мы Беларусь збудуем вольнай.

Калі ж пад цяжкасцю мяча
Упала княства рыфмарова,
Уратавала Бога Слова
І духацерпніцтва Зьніча.

1994 г.

## Alba Patria

*В.А.Чамярыцкаму*

Там, дзе Свіцязь чароўна схавана ў вячыстай
дуброве,
Дзе муры Наваградскія неба трымаюць яшчэ,
Дзе свой лёс Беларусь прамаўляла ў Адамавым
слове,
І дзе дух наш літвінскі з паветрам у душы цячэ,

Там, куды мы ў надзеі вандруем за страчаным
раем,
Беларушчыны нашай шукальнікі ў вечнай журбе,
Летуценнай душой да сваіх каранёў прыпадаем
І табе аддаём свае сэрцы, наш Краю, табе!
Там, дзе мы ад трывог, ад сваёй мітусні
паўсядзённай
Адыходзім далёка і чыстую ўяву снуём,
Што з нас кожны цяпер ці то вершнік са
слаўнай Пагоні,
Ці яго пан Тадэвуш вось выйдзе й пакліча ў
свой дом;
Там, у гэтым краі, ад якога дрыжэлі крыжакі,
Дзе вялікай дзяржавы навек гартаваліся ў
бітвах муры,
Нараджаюцца там і цяпер не гіены, не псы-
небаракі.
Толькі волаты, так! Беларускага духу зубры!
І таму нас, зубрыных, ніколі ніхто не прымусіць

Свой назоў памяняць у шаленстве чарговых віхур.
Летуценныя мы, дый нязломныя мы, беларусы,
Бо калыскай нам — Свіцязь, хросным бацькам —
Наваградскі мур.

22.VII.1996

## Беларусі на Дзень Незалежнасці
## 27 ліпеня 1996 года

Камусьці ў хаце сядзець сцішмя
І сніць савецкую паншчыну,
А мы ідзем — "па сваё імя",
На Высокі Сход, па Бацькаўшчыну!
Купалы дзеці, нам выпаў шлях
З лёхаў гадоў скамянелых
Узняць паходняй наш горды сцяг
Бела-чырвона-белы.
І толькі дзівішся, колькі разоў
Тут рэй вадзілі прыблуды:
Дзялілі межы, мянялі назоў,
Цвялілі пысы раз'юшаных псоў,
А ўрэшце каналі, як Юды.
І толькі ты, Беларусь, была
Адвечнаю, чыстаю Княжнай.
Харугвы ў бітвы святыя вяла
Да вольнасці несярмяжнай.
І сёння, нашчадкі рыцараў тых,
Вось мы стаім прад табою —
Такім нам не проста ўжо даць пад дых,
І ўзяць наш крывёй гартаваны шыхт
Падступнасцю, быццам Трою!
Няхай вішчаць і свінні, і псы,
Злуюцца ў страху гіены,
Мы самі нашы збярэм каласы
І гмахаў збудуем сцены.
А гэты Дзень, Богам дадзены нам,
Як вольны ў палёце бусел,
Вястуе светлы і вечны Храм,
Які не разбурыць ні кат, ні хам,
Адроджанай Беларусі.

26.VII.1996

# СШЫТАК ТРЭЦІ

# CON AMORE

Suus rex cuique reginae placet*

* Кожнай каралеве падабаецца свой кароль.

* * *

*"Мусіць, трэба было..."*
*Я.Купала*

Мусіць, трэба было прайсці гэты шлях да
лілова-дажджыстага ранка
У самоце, у неспадзяваным чаканні, у змірэнні й
журбе,
Каб аднойчы ва ўнутраным дворыку Азова-
Данскога банка
Пачуць праз літары пацалункаў: "Я кахаю цябе".

Мусіць, трэба было стаць падарожным далёкай
вандроўкі,
Каб выйсці на скрыжаванне ў дзень,
абвешчаны звыш:
І сталася шэрая траса занудлівай Магілёўкі
Месцам надзвычайнага цуду, хоць стаў тут
памятны крыж.

І выраслі старасвецкія дахі над зрэзамі звыклых
панелак,
І нетры адкрылі сховы забытых старых
падмуркаў
І я нібыта дзяўчо з пансёна зачараваных
паненак,
І мы закаханыя — двое з нябёсаў зляцелых
прыдуркаў. 25.VI.1997

* * *

Так хораша ты вымаўляеш мне
Кахання словы.
Усё ўва мне табе насустрач мкне,
І усе пакровы,
І маскі ўсе адкіне прэч душа,
Каб чыстаю з табою зліцца...
І піць нам разам з Боскага каўша
Напой кахання і не наталіцца.
І прагнуць зноў адчуць адданасць рук,
Пяшчоты водар,
І на тваім плячы сустрэць зару,
Мой Квазімода.

07.VII.I997

**Вялікаму духам пасуе вялікі лёс**

Залатая шляхецкая вольнасць —
Дар нябёсаў над нашым краем!
Два стагоддзі як згублена стольнасць,
Як блукаем за страчаным раем.
Пакаленнямі гінулі продкі,
Каб здзяйсняўся зарок няўмольна:
Каб нам марыўся "дым салодкі" —
Бэз айчыны святой і вольнай,
Каб нам сніліся тыя ўцехі,
Што народы спрадвеку маюць.
Як мы сцерплі, што Край пасеклі,
Залілі атрутаю памяць?
Залатая шляхецкая вольнасць!
Што ж вы думалі, "паны-рада",
Зноў талдычачы нам пра"супольнасць",
Там, дзе назва дакладная — здрада?
Так айчыну прыўлашчылі іншыя.
І сталіцу, й назовы суседзям
Раздалі і памяць панішчылі,
Цудам вось не сканалі ледзьве,
Забыўшыся ўсіх сваіх мітаў,
Апрача, што мы ад сярмягі, —
Атожылкі Рэч Паспалітай,
Сармацкай крыві і адвагі!
Тут не гнулі шляхецкія спіны,
Кожны рыцарам быў ад роду.
Мы — нашчадкі вялікай краіны,

Дзе заўсёды любілі свабоду!
І Айчына адбудуецца ў душах.
А там яе сцяць немагчыма.
Ззяе на нашых кунтушах:
"Нацыя! Вольнасць! Айчына!"
І Гісторыя зменіць ракурс
Не па суседскім рэцэпце:
Magnam fortunam magnus
Etiam animus decet!

02.VII.1997

## Скрыжаванне на Нямізе

Прадчувала цябе як адну з найлепшых загадак.
І вось ты з'явіўся ў дзень развітання са снамі.
Я падумала: не, гэта проста шалёны выпадак,
Але нешта здарылася ўжо з намі.

Гэта цуд павінен быў спраўдзіцца нейкі.
І марным было яму дзіцячае супрацьстаянне.
Таму благаслаўлёны дзень у гонар Ігната Дамейкі
Штурхнуў нас, нібыта ў вір сусветных стыхій, —
у каханне.
Як быццам Гасподні дотык, але не ты,
Маю руку ахінуў неверагоднай пяшчотай.
І адчалілі ад звыклага берага ўсе чаўны і плыты
Маёй стрыманасці, непрыступнасці і самоты.

І неверагоднае здарылася ў адзін міг,
Пакуль мы дайшлі да скрыжавання на Нямізе,
І пакуль я разважала: насмешнік Дамейка ці
чараўнік, —
Мы з табою, як на карцінах Шагала, над
горадам узняліся.

06.VII.1997

## **Карэліцкі тост**

*Адаму Мальдзісу*

У Краі, дзе дух філамацкіх радзінных
фальваркаў
Вядзе нас ізноў у таемную сутнасць Айчыны,
Узнімем высока ўрачыстую йскрыстую чарку
За род наш трывушчы, які закілзаць
немагчыма!

Зацяты маскаль нам нявечыў свабодную думку,
Высокі наш дух прыбівалі ўз'яднанняў каменнем
То злева, то справа — дагэтуль атрутнага трунку
Не выціснуць з не расквітаных з ярмом
пакаленняў.

Жыве Беларусь! Люд Касцюшкаў падданым не
будзе!
Паднімем жа нашу, парыву падлеглую чарку
За вольным паветрам налітыя вольныя грудзі
У Краі, дзе дух філамацкіх шляхецкіх
фальваркаў!

14.VI.I997

## **Час бэзу**

Бэз безупынны, бязлітасны, бэз летуценны.
Бэз як бязмежжа памкненняў, пачуццяў іграння.
Бэз каралеўскі. сармацкі, бухмата-праменны,
Бэз як прэлюдыя лета, фарцісіма траўня.

Як мы з табою адкрылі такую краіну?
У кнізе якой прачыталі, з якой бібліятэкі?
Спынімся ж тут, каб таёмную зведаць хвіліну.
Бэзавай, боскай, пяшчотнай чароўнай апекі.

Бэз каляровы, ліловыя вогнішчы бэзу,
Срэбныя футры, драбнюткія флянсікі кветак.
Хтосьці самотны, напэўна, прыдумаў імпрэзу:
Гэта фарцісіма траўня, прэлюдыю лета.

Бэз як бяспечнасць, як сімвал радзінных
фальваркаў,
Кожнай шляхецкай сядзібы належнае ўбранне,
Бэз як вяршэнства айчыны, а ўсіх недаверкаў
Зможа вясна гэтым бэзавым траўневым граннем.

Бэз як бясконцасць высока абранага шляху.
Бэз як ахова на гэтым шляху ад нячыстых.
Бэз як шаленства... Я трачу прытомнасць ад паху
І ад кахання. Бэз! Гэта Боскі трыумф урачысты.
02.VII.1997

## Аметысты

Мы з табою пачалі бясконцы вальс,
І нікога ні паблізу, ні здалёку.
Шлях нябёсны зіхаціць, як слуцкі пас,
Бачна тое, што жадана воку.

Ціха таньчым у краіне для дваіх,
Навакол ахова — бэзу вежы.
Спяць майстры зласлоўя і інтрыг.
А дзяржава бэзу нам належыць.

Пацалункі вуснам тайны сэнс
Нашых жыццяў адчыняюць урачыста.
І пяшчота водарыць, як бэз, —
Цэлы край убраў Гасподзь у аметысты.

02.VII.1997

## Магдалена (Уваскрасенне)

Жанчыны-міраносіцы стаялі.
Анёл Гасподні камень адваліў.
Ды й там, дзе Цела мілае паклалі,
Адны тканіны знятыя былі.
І Магдалена, Госпада згубіўшы,
Замерла ў страху й жалю над труной,
Пакуль з вышынь ерусалімскай цішы
Не загучаў знаёмы голас ёй.
Знаёмы голас ушчуваў лагодна:
О, як маглі засумнявацца ў тым,
Што Ён васкрос! На трэці дзень! Сягоння!
І новым стаў для ўсіх Ерусалім.
І "радуйся" пачула Магдалена.
І вось Ён сам у дотыку жывым,
І крочаць вучні, уражаныя зменай,
У Галілею на спатканне з Ім.
Пад іх ступнямі нават пыл квітнее,
Яшчэ Ён з імі — той і ўжо не той...
І Магдалена ў радасці святой
І ў роспачы бяздоннай разумее
Усю любоў дараваную ёй,
Любоў Хрыста — Ісуса з Галілеі.
І месцілася ў крыку незямным
"Равуні" болей сэнсу, чым "Вучыцель" —
Уся туга кахання па Адным,
Хто быў жыццё, крыніца, шлях, збавіцель.

30.III.1997

## Язьмін

Як закахальна пахне ля ганку язьмін!
Быццам ён кліча гарэзліва й просіць:
вазьмі-
це радасць далонек бялюткіх,
распахнутых у нябёсы!
Гэты язьмін
мае такую моц уладарную
над маім лёсам.
Гэты язьмін
так атрутна - прывабна
летуценных уракае
І, як настаўнік сусветных асноў,
Вучыць спрагаць дзеяслоў:
"Я кахаю..."

06.VII.1 997

## Камінны верш

Камінная зала — найлепшы прытулак самоты.
Гляджу, як імпэтна захоплена полымя грае.
І рубанцы таюць, а нашай сустрэчы на потым
Адкладзена тайна. І сум падкрадаецца краем.

Такое нам шчасце — таемных, гарачых
спатканняў,
Узлётаў нябёсных і роспачных стромкіх абрываў.
З душы маёй зняў ты яе ледзяное убранне
І ўладна ўдыхнуў закаханасць і прагу парываў.

Камін дагарае. І гэта самоце пасуе.
Пустынная зала, дзе ты мог быць побач са мною...
Гукні ў далячынь, што мяне менавіта такую
Ты марыў сустрэць, а я стала дрыядай лясною.

І вось уцякла, ў зачарованым лесе схавала
Пачуццяў наплывы сваіх. А камін дагарае.
Прыедзь да мяне, я скажу, што цябе пакахала.
Апошні блакітны агеньчык між вуглямі грае.

08.VII.1997

## Апошні аўтобус

Вось пранёсся апошні аўтобус
Міма нашай з табою сустрэчы.
Перадумаў паказваць нам фокус
Чараўнік і забраў свае рэчы.

Столькі цудаў і так мы дазналі,
Столькі Боскай кахальнае ласкі,
Што змянілі кірунак свой знакі
І звялі нас ад нашае казкі.

Я чамусьці хаджу на прыпынак,
Хоць прыехаць ніхто не павінны.
Проста гэты бязглузды учынак
Мне даруе ілюзій хвіліны.

Мне даруе падманную ўцеху,
Зацугляе пачуцці на момант.
Дый ніхто не павінны прыехаць
Са скляпенняў чырвонага дома.

Трэці вечар аднолькавы вынік.
"Ты дзівачка!" — разносіцца смехам.
Я ўсё роўна пайду на прыпынак:
Не прыедзеш, дык прыйдзеш, мо, пехам.

09.VII.1997

## Магілёўская пліта — эпітафія XVII стагоддзя

*"Смертелным кождый оком нехай то обачыт*
*И по смерти як слава добродеем вдячыт..."*

*(З беларускага верша XVII ст.)*

Даводзіў нам нагробак той даўнейшы
Жывую ісціну, засведчаную ў слове,
Што быў Арсеній Азаровіч, мніх тутэйшы,
Фундатар кляштару ў месце Магілёве.

А за яго руплівасць і за цноты
У знак ухвальнасці яму пліту зрабілі
І ў мур царкоўны ўставілі, а потым
Праз тры стагоддзі ўсё ж царкву спалілі.

Але пліта і верш на ёй удзячны
Перажылі пажар і руйнаванне.
Так справы добрыя заўжды нашчадкам бачны,
Хоць кляштар той і знішчаны дазвання.

09.VII.1997

## Кароль у Нясвіжы

Кароль развітаўся з чароўнай сваёй каралевай.
Далёкай вандроўкі ляжыць яму шлях вераснёвы.
З ім світа цікаўная: позіркі справа і злева
Пільнуюць усе яго жэсты і крокі, і словы.

А шлях каралеўскі — палацы, касцёлы і замкі;
Палову зямлі сваёй спадчыннай гэтак аб'едзе,
Адчыніць усе на ўсіх брамах засовы і клямкі,
І лёхі вякоў загудуць рэхам срэбра і медзі.

І скажуць яму, падарожніку ў восеньскай цішы:
Ці ведама вашай высокакаханае мосці,
Што к вам каралева таемна прыедзе ў Нясвіжы,
Як стомяцца ў шумнай вандроўцы і світа, і госці?

Яшчэ загудуць тыя лёхі сакрэтным прызнаннем,
Што ўжо каралева гатова, на шчасце ці згубу,
Да светлай хвіліны, калі ягамосцяў кахання
Анёльскі картэж паімчыць данябёснага шлюбу.

03.IX.I997

* * *

У полацкім Сафійскім саборы
Гучаў арган і вакал,
І голас узносіўся con amore
І трапятаў, і кахаў

Кахаў, і плакаў, і спадзяваўся,
Рэхам буры лунаў,
Анёльскім крылом душы дакранаўся,
Уваскрасаў і канаў.

Будзілі ўсіх і сціхалі хоры,
Пачуцці плылі без меж.
І ты быў побач, і con amore
Гучала, як мне, табе ж.

11.IX.1997

## Магілёўская кафля XVII ст. (На адкрыцці геральдычнай выставы)

Арол магутны двухгаловы
Трымае бэрла і дзяржаву.
Здаецца, што цішэюць словы
Ад гэткай непамернай славы.
Нібыта тут яму належыць
Усё ад замкаў да палеткаў.
Ён так прывык да нашых межаў.
Але ж ільвы стаяць за сведкаў
Аберуч тут, нібыта вежы.
І мы ўглядзімся нескарона:
Ільвы трымаюць герб той царскі.
Ён пад шляхецкаю каронай! —
Арол той хіжы і вядзьмарскі.
Ён з трох бакоў закратаваны
Ільвамі і каронай Княства,
Як верабей утаймаваны,
І шчыт яго — ягона ж пастка!..
Вось так пра нашую Айчыну,
Яе шляхецкі лад нанова
Раскажа самым дзіўным чынам
Старая кафля з Магілёва.

16.IX.1997

## Сармацкая пячатка

Вось аркуш, спісаны лацінай старадаўняй,
На ім сургуч з пячаткаю прывабнай:
Два сэрцы злучаныя ланцужком так файна
І на замок замкнёны ўнізе зграбна.

Напэўна, шляхціц, зараз нам не знаны,
Што чуўся рыцарам ва ўсім спачатку,
Быў гэтак моцна ў даму закаханы,
Што сэрцамі аздобіў ён пячатку.

Цяпер усё, што тычыла васпана
У справах як дзяржаўных, так прыватных,
Было пячаткай любасці звязана,
І ўсё таму рабілася выдатна.

Бо сам кароль дзяржавы паспалітай
Мяняў суровы позірк на лагодны,
Калі трымаў з пячаткай самавітай
Рэляцыю ці ліст шляхетны годны...

Даўно бракуе рыцарскіх традыцый,
Але ж душа спрашчэння не прымае.
І сёння ты глядзішся, як патрыцый —
Нашчадак Палямона ў нашым краі.

Хоць з тых часоў сармацкіх благаслаўёных
Нам не стае шчаслівага выпадку,

Каб аднавіць шляхецкую карону,
Сымболь кахання ўправіць у пячатку,

Але адно даступна без вагання:
На сургучы замок адкрыць і трапіць
У час старашляхецкага кахання,
Дзе рыцар даму знойдзе і не страціць.

28.IX. 1997

**Белая дача**

Мы зноў заблукалі ў мары,
Ты нічый і я нічыя,
У белы шляхецкі фальварак
На ўзгорку ля ручая.
Па жоўтым апалым лісці
Між вечных самотных дрэў
Ішлі мы і, як калісьці,
Агеньчык у доме гарэў.
Там жыў гаспадар шляхетны,
Ручай даглядаў і гай,
Зважаў ён на люд гаротны,
Чытаў «Атэнэум» і «Край».
Пад штандары Кастусёвы
Паставіў усю сям'ю.
Ён быў патрыёт «краёвы»
І мову ведаў сваю,
І гонар шляхецкі і Бога
Не мог ён на глум аддаць,
Не мог маскалям даравань
Айчыну, што стала астрогам...
Пайшло ўсё як сон жахлівы,
Айчыну дзялілі ўсе:
Хто толькі не быў лянівы,
«Асвойваў» нас па крысе.
Знайшоўся і «брат» старэйшы,
Хто думаў наш лес за нас.
Так крочым з кляймом тутэйшых

У свой прадапошні час.
Без мовы, з іржавай славай,
Без родавых каранёў,
Без краю, што стаў дзяржавай,
Вартаю каралёў.
Сармацкая кроў-вядзьмарка
Дарэшты сцякла ў зямлю.
Краіна былых фальваркаў,
Якую я так люблю,
Пакрыта пажоўклым лісцем,
Дзе мы блукаем адны...
І белы той дом — як выйсце
З бязроднасці да радні.

26.X. 1997

**Vergilius**

Адвечная мудрасць песні,
Якую складаў Вергілій.
Каханне маё замерзне
У час хрызантэм і вяргіняў.
Народжанае ў час бэзу,
Квітнела яно ў час ружаў
Няўжо яно ўступка бесу,
І бес душу маю здужаў?

Іду па краіне цудаў
Насустрач свайму жаданню,
Насуперак перапуду
І роспачы, і зляканню.
Над намі дай волю, Божа,
Адбыцца твайму заданню:
Каханне нас пераможа —
Ці мы саступім каханню?

І ўшчэнт разаб'ецца мармур,
І ўсцяж утаймуецца мора:
Omnia vincit amor
Et nos cedamus amori!
Замерзлае сэрца панне
Растопіць мудрэц Вергілій:
Усіх пераможа каханне
І ў час хрызантэм і вяргіняў.
27.X.1997

## Магілёўскія геральдычныя выявы XVII стагоддзя

* * *

Сімвалам даўніх часоў —
Кафлі сармацкай выява:
Уздыблены звонам падкоў
Вершнік, павернуты ўправа.
Бегам раз'ятраны конь.
Што яго змусіць спыніцца?!
Меч урастае ў далонь,
Вершнік да вежы імчыцца.
І развінаецца даль,
А за плячыма — айчына.
Зможаны будзе маскаль
Мечам шляхецкага сына.
Вежу мінае ваяк,
Толькі свабоды падданы:
Зможаны будзе прусак,
Будзе і швед зваяваны.
Кожны, хто прыйдзе з вайной,
Будзе адрынуты ўпарта
Рыцарам з кафлі старой,
Модным намётам дрыкганта.

* * *

Годны імчыцца ваяк,
Толькі свабоды падданы...

Дзе ты, Краіна мая?
Дзе тваіх рыцараў станы:
Багнаю соймавых звяг,
Попелам войн і паўстанняў
Шла ты ў смяротны свой шлях,
Варты высокіх паданняў.
Здраджана столькі разоў,
Выгляд згубіла арліны.
Вершнік ля брамы дазор
Свой неадменны пакінуў.
Сумны зняверaны люд
Стаў сябе клікаць тутэйшым.
Дзе ты, сармацкі наш кух
Дзе твае замкі і вежы?
Рэшта сармацкай крыві
Б 'ецца ў шалёныя скроні.
Вершнік імчыцца "на вы",
Меч вырастае з далоні.

* * *

Сёння музейны рэлікт
Кафлі разбітай выява,
Быццам апошні вердыкт
Нашай шляхетнай дзяржавы.
Як не ўпадзе небакрай,
Не абмаскаляцца храмы,
Вернецца годнасць у Край,
Вернецца рыцар да брамы.
Будзе шляхетны кароль
Правіць у згодзе з сенатам,
Будзе айчыны сымболь
З годнай "Пагоняю" ўзняты.
Будзе сармацкі пасад
Новы ў душы збудаваны,
Што, як стагоддзі назад, —
Толькі свабоды падданы.
Попелам даўніх часоў,
Кафлі адроджанай глінай,
Звонам забытых падкоў
Стукае ў сэрца Айчына.

27.X. 1997

* * *

Там, дзе мы крочылі вуліцамі і
скрыжаваннямі, —
Гэта быў горад нашых з табою малюнкаў.
Мы расквецілі яго сустрэчамі і
расстаннямі,
Урачыстымі палацамі нашых пацалункаў.
Мы ўзводзілі стромкія вежы вялікіх
памкненняў,

Былі дойлідамі шляхетных замкаў нашай
пяшчоты.
Рэха кахальных прызнанняў лунае ў гэтых
скляпеннях,
Прадзіва нашага смутку тчэцца над імі.
А потым
Мы плылі шагалаўскімі нябёсамі,
Шчаслівыя гэтак бязмерна,
Спасцігаючы вечныя ісціны ўласнымі
лёсамі:
Vita brevis,
Amor aeternus,
Patria aeterna.
1997

## ЗМЕСТ

*Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць*
*за спонсарскую дапамогу*
*ў выданні гэтай кнігі «БелГЕА»*
*і яе дырэктару*

*сп, Масквічу В. А.*

Літаратурна-мастацкае выданне

Ірына Багдановіч

**Сармацкі Альбом**

Вершы

Рэдактар *Е. Масквіч*
Кампутарная вёрстка *І. Віцэн, Е. Масквіч*
Мастак *А. Леўчык*

Здадзена ў набор 3.07.1998. Падпісана да друку 5.07.2004.
Фармат 70Х90 $^{1/32}$. Папера афсетная. Гарнітура Таймс.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 3,8. Наклад 300 ас.

Друкарня «URSUS»